Інфармацыйны бюлетэнь

# БАРМІЦА

www.barmica.org травень 2005 г. barmica@tut.by бясплатна




# Моладзь з Наваполацку правяла суботні дзень на Глыбоччыне

Школа выходнага дня гісторыка-культурнага клубу "Княжычы", што працуе ў Наваполацку, сёння, 7 траўня правяла выязныя заняткі. Мэта паездкі групы школьнікаў ды студэнтаў – наведванне касцёлу ў Мосары. Але гэтым падарожжа не абмежавалася. Перш за ўсё напярэдадні Дня Перамогі навапалачане наведалі мемарыял ва урочышчы Барок, дзе пахавана каля 30 тысяч ахвяр лагеру ваеннапалонных, большасць з якіх – італьянскія жаўнеры. На шляху да Мосара аўтобус з гасцямі спыніўся каля касцёла у в. Удзела. Нечакана моладзь стала удзельнікам хрысціянскага канцэрту ды дыскатэкі, што ладзілася на тэрыторыі касцёлу.

Безумоўна, Мосарскі касцёл уразіў гараджан. І хоць парк яшчэ не упрыгожыўся багаццем колеру кветак, але ж выглядаў выдатна. Папіўшы вады са святой крыніцы ды наведаўшы музей мосарскай парафіі, госці вярнуліся ў Глыбокае. Пазнаёміўшыся з гісторыяў галоўных архітэктурных помнікаў – Свята-Ражыства Багародзіцкага сабору ды касцёла Святой Троіцы, у хуткім часе маладзёны вярнуліся дадому.



## Паважаныя сябры!

Ужо прайшло 15 год з таго дня, як у нашай краіне была прызнана беларуская мова мовай нацыянальнай. Гэтым самым грамадзяне Беларусі афіцыйна атрымалі гарантыю дазволенага выкарыстання мовы сваёй мінуўшчыны ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. На пачатку 90-х гадоў ніхто не сумняваўся ў шчырасці гэтага абяцання: адкрываліся беларускамоўныя школы, ствараліся спецыялізаваныя гурткі і студыі, выдавалася шмат перыядычных і неперыядычных выданняў на беларускай мове, афіцыйная дакументацыя пераводзілася на беларускую мову.

Але прайшло некалькі гадоў, - і што мы бачым зараз? Куды падзелася тая жыватворная хваля беларусізацыі? Чаму на паліцах у кнігарнях няма беларускамоўных кніг для дзетак? Чаму закрыліся беларускамоўныя садкі і школы? Адказы на гэтыя пытанні можам даць толькі мы самі. Мы павінны ўсвядоміць, што беларуская мова – наша будучыня, а людзі, якія спрабуюць давесць гэта іншым, – не фанатікі, а звычайныя людзі, грамадзяне сваёй краіны, якія неабыякава ставяцца да лёсу Радзімы і мовы.

Сёння, у інфармацыйную эпоху, усё больш і больш людзей для таго, каб атрымаць інфармацыю, звяртаюцца да сродкаў масавай інфармацыі. Самыя даступныя, прыгожа афармленыя і зразумелыя звесткі нам прадастаўляе тэлебачанне. Вельмі дзіўна, але ў нашай краіне тэлебачанне наогул не выкарыстоўвае ці выкарыстоўвае ў вельмі нязначных аб'ёмах беларускую мову. Чаму мы павінны слухаць навіны Беларусі на мове суседняй дзяржавы? Хіба гэта правільна?

Вядома, адразу перавесці ўсю сістэму тэлевізійнага вяшчання на беларускую мову вельмі складана ці немагчыма, але стварыць некалькі перадач, якія б выходзілі на беларускай мове, чытаць навіны на ёй жа магчыма. Зараз мы павінны проста заявіць пра сваё жаданне пастаянна чуць на тэлебачанні нашу родную мову. Кіраўніцтва БелТэлеРадыёКампаніі павінна прыслухацца да заявы, якую падпішуць тысячы непасрэдных гледачоў, людзей, якія спажываюць прадукт. Таму давайце не будзем абыякавымі да таго, што адбываецца ў нашай краіне, і стажам сваё слова!

# Партыя БНФ папросіць Канстытуцыйны суд даць ацэнку перайменаваньню вуліцаў

**Партыя БНФ вырашыла зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд, каб ён даў ацэнку адпаведнасьці ўказу Аляксандра Лукашэнкі аб перайменаваньні вуліцаў Менску нормам Асноўнага закону краіны.**

Незалежныя юрысты Беларусі сьцьвярджаюць, што паводле закону “Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленьні і парадку вырашэньня пытаньняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкаваньня Рэспублікі Беларусь” такога права прэзыдэнт ня мае. Артыкул 8 згаданага закону дае прэзыдэнту права вызначаць назвы населеных пунктаў, а ў артыкуле 15 сьцьвярджаецца, што назвы вуліц у населеных пунктах могуць мяняць мясцовыя саветы з улікам думкі насельніцтва. Паведамляе Альгерд Невяроўскі.

Як вядома, Аляканадар Лукашэнка вырашыў перайменаваць праспэкты Скарыны й Машэрава, а таксама вуліцы Варвашэні, Ерусалімскую, Дразда і Старабарысаўскі тракт сваім указам. Адпаведнага рашэньня Менскага гарсавету й апытаньня думкі насельніцтва ў гэтай справе не было.

Я папрасіў пракамэнтаваць гэтую калізію начальніцу юрыдычнага аддзелу Менскага гарвыканкаму Ірыну Усаву, але яна фактычна нічога не змагла сказаць у гэтай справе:

(Усава: ) “ Я толькі выйшла з адпачынку і не магу яшчэ нічога патлумачыць. Абсалютна ніякіх камэнтароў вам не магу даць пакуль. Я не магу прааналізаваць паўнамоцтвы прэзыдэнта. Гэта ў нашую кампэтэнцыю не ўваходзіць”.

Я спрабаваў запытацца пра гэту супярэчнасьць у намесьніцы кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Натальлі Пяткевіч, але яна ад камэнтара адмовілася.

А вось меркаваньне былога судзьдзі Канстытуцыйнага суду, заслужанага юрыста Беларусі Міхаіла Пастухова:

(Пастухова: ) “Фактычна закон вышэйшы за ўказ. Трэба было выконваць закон. І самае галоўнае, што тут не было ніякіх рашэньняў ці Менгарсавету, ці патрабаваньняў грамадзкасьці. Рашэньне было прынята ў абыход інтарэсаў грамадзкасьці. Ніхто не пытаў, як жыхары Менску паставяцца да гэтага. Такія пытаньні аб перайменаваньні павінны вырашацца безумоўна з улікам інтарэсаў грамадзкасьці”.

А партыя БНФ з гэтай нагоды вырашыла зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд каб ён даў ацэнку адпаведнасьці ўказу Аляксандра Лукашэнкі аб перайменаваньні вуліцаў нормам Асноўнага закону.

Паводле закону “Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленьні і парадку вырашэньня пытаньняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкаваньня Рэспублікі Беларусь” такога права прэзыдэнт ня мае. Артыкул 8 згаданага закону дае прэзыдэнту права вызначаць назвы населеных пунктаў, а ў артыкуле 15 сьцьвярджаецца, што назвы вуліц у населеных пунктах могуць мяняць мясцовыя саветы з улікам думкі насельніцтва. Партыя БНФ мяркуе перадаць свой зварот у Канстытуцыйны суд 13 траўня.

*Альгерд Невяроўскі, Менск*

# Канферэнцыя дэмакратаў Віцебшчыны
## прайшла ў партызанскіх умовах

З вялізнай каспірацыяй, прабіраючыся ляснымі сцежкамі з праваднікамі больш ста дэлегатаў канферэнцыі дэмакратычных партый і руху Віцебшчыны сабраліся 15 траўня на беразе Лучосы. Міліцыя, спецслужбы з вялікімі зоркамі на пагонах і ў штацкім пільна сачылі, а дзве відэакамеры здымалі прысутных. Такое мірнае суіснаванне наладзілася не адразу.



Спачатку людзі ў форме спрабавалі спыніць сход на свежым паветры. Але пасля досыць рэзкіх выказванняў Лябедзькі ды Калякіна, сітуацыя нармалізавалася. Службоўцы займаліся сваёй справай, дэлегаты ды госці – сваёй. Разбіўшыся на групы па рэгіёнах Віцебшчыны, пачалі па чарзе гутарыць з вядомымі палітыкамі, якія прэтэндуюць на званне адзінага кандыдата” ад дэмакратычных сілаў. Сінхронна, употай ад міліцыянтаў праводзілася галасаванне. У выніку тройку лідэраў склалі Мілінкевіч (68 галасоў), Калякін (53) і Лябездька (46). Агульнабеларускі кангрэс дэмакратычных сілаў па вылучэнню асобы, якая стане азіным кандыдатам з удзелам каля 700 чалавек, вырашана правесці ў перыяд з 1 верасня па 1 кастрычніка гэтага года. Дэлегаты кангрэсу будуць абраныя на раённых канферэнцыях, якія распачнуцца ў самы бліжэйшы час.

# У Мёрскім і Шаркоўшчынскім раёнах ад холаду загінулі каровы

**Загады выганяць кароў у поле з 9-га траўня паступілі ад раённага начальства, і ў гаспадарках мусілі падпарадкавацца, нягледзячы на тое, што на Мёршчыне тэмпература зьнізілася да 0 градусаў, а ў Шаркоўшчынскім раёне ўвогуле пайшоў сьнег. Цяпер там падлічваюць страты: паводле папярэдніх зьвестак, у кожным з раёнаў загінулі больш як па тры сотні кароў ды цялушак.**

Словам "загінулі" абагульняецца ўсё, што здарылася ў шэрагу гаспадарак за апошнія суткі – і тое, што, ратуючыся ад ветру і дажджу, цялушкі туліліся адна да адной і насьмерць душылі слабейшых, і што аслаблыя за зіму каровы асклізаліся і танулі ў перапоўненых вадой канавах, і што нават пасьля таго, як жывёлу загналі пад дах, частка дойнага статку загінула ад вострых запаленьняў.

На Мёршчыне загінулі каля 360 кароў і цялушак, але дакладна страты раённай сельскай гаспадаркі пакуль не падлічаныя. Намесьнік раённага пракурора Аляксей Лапушынскі праводзіць тут праверку, бо факты масавага падзяжу жывёлы сталі вядомыя толькі дзякуючы таму, што супрацоўнік службы ДАІ выпадкова спыніў прычэп з памерлымі цялушкамі. Пра вынікі праверкі прадстаўнік Мёрскай пракуратуры пакуль нічога не кажа, хаця ўжо другія суткі працуе, апытваючы сьведак. Гэтаксама інтэнсіўна працуе сёньня і Мёрскі мясакамбінат, куды звозяць яшчэ жывую жывёлу.

Кіраўнік Шаркоўшчынскага райсельгаспроду Іван Лаўрановіч сцвярджае, што кароў ды цялушак загубіла непрадказальная прыродная стыхія, а не працоўны недагляд ці што іншае.

Паводле словаў Івана Лаўрановіча, у Шаркоўшчынскім раёне страцілі ўсяго каля сарака кароў, і тое іх нібыта пасьпелі яшчэ жывымі адвесьці на мясакамбінат у Глыбокае. Хаця толькі супрацоўнікі аднаго аграпрадпрыемства "Княж" ананімна распавядаюць, што ў іх загінулі 87 кароў і 40 цялушак. Людзі гавораць пра тое, што адбылося, з непрыхаваным жахам, вінавацяць раённае начальства, якое аддала загад пра заўчаснае пашавае ўтрыманьне жывёлы, але вельмі баяцца, што спагоняць за ўсё з шэраговых працаўнікаў ды кіраўнікоў гаспадарак.

Дарэчы, толькі ў гаспадарцы "Сьветлы шлях" адмовіліся выконваць загад з раёну, але вярнулі жывёлу пад дах толькі тады, калі пяць кароў здохла. Жыхарка вёскі Заазерцы Соф'я Табола вырашыла асабіста сабраць зьвесткі пра тое, якія страты маюць цяпер гаспадаркі раёну, і гэтыя зьвесткі зусім не падобныя да афіцыйных.

(Табола): — Ня слухайце іх! Каля трохсот галоваў быдла па раёне загінула! Я тэлефанавала людзям і яны мне расказвалі, што дзе пяць, дзе дзесяць кароў загінула, дзе 130, як у Германавічах, дзе 40, як у Прамянах. Усіх не пасьпелі нават вылавіць з ракі, яны так і плывуць цяпер Дзьвіной на Полацак! У нас даяркі ўсе плачуць, бо і каровак шкада, і сябе –гэта ж быў дойны статак, а наперадзе лета, калі за малако бываюць добрыя заробкі. Цяпер ні каровак няма, ні заробкаў ня будзе! Каровы ж трэба гады 4 гадаваць, каб яна добрае малако давала, а дзе цяпер іх возьмеш? Дакуль можна з сялянаў зьдзеквацца, кіраваць імі, як дурнямі, якія самі нібыта нічога ня ведаюць і не разумеюць. Ды ў такое надвор'е добры гаспадар сабаку на двор не пагоніць, ня тое каб карову з хлява!

Нягледзячы на тое, што ў Шаркоўшчыне і Мёрах прайшлі надзвычайныя пасяджэньні райвыканкамаў, дзе разглядалася пытаньне падзяжоў жывёлы, пра маштабы стратаў адмаўляюцца гаварыць і чыноўнікі абласнога рангу. Так, намесьнік старшыні Віцебскага аблсельгаспроду Віктар Славецкі параіў журналістам не ўзьнімаць дарма паніку, бо, паводле ягоных словаў, нічога надзвычайнага не адбылося – ніводная карова нідзе не замерзла і ідзе ўсяго толькі плянавая здача быдла на мясакамбінаты.

*Браніслава Станкевіч, Віцебск*



# Апытаньне ў Глыбокім:

## ці павінны сучасныя ўлады даць згоду на адкрыцьцё нямецкіх могілак на Беларусі?

**Райцэнтар Глыбокае, што на Віцебшчыне, ёсьць адным з тых нешматлікіх мястэчак на Беларусі, дзе ўжо ёсьць афіцыйнае нямецкае пахаваньне: на тутэйшых могілках усталяваныя дзьве мемарыяльныя пліты і крыж, пад якімі ляжаць парэшткі нямецкіх вайскоўцаў, загіблых у часе мінулае вайны. Першапачаткова нямецкія могілкі былі на гарадзкім стадыёне, і толькі гадоў пяць таму, калі Нямеччына дала грошы на абнаўленьне спартовай пляцоўкі, адбылося перазахаваньне і адкрыцьцё гэтага мемарыялу. Але ўсе ў Глыбокім ведаюць, што засталося тут яшчэ адно нямецкае пахаваньне – вакол касьцёла Сьвятой Тройцы, зруйнаванае бульдозерамі і пакрытае асфальтам.**

Што думаюць жыхары Глыбокага наконт таго, ці павінныя даць згоду на адкрыцьцё нямецкіх могілак сучасныя беларускія ўлады?

Распачынае тутэйшы дэпутат Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Васіль Хрол, якога давялося сустрэць у самым цэнтры Глыбокага.

**(Хрол:)** " У нас ва ўрадзе ёсьць узаемнае пагадненьне пра догляд магілаў на тэрыторыі Беларусі і на тэрыторыі Нямеччыны. Але пакуль яно на ратыфікавана Парлямэнтам. Але маё чыста чалавечае меркаваньне: прайшло ўжо 60 год, і гэта блюзьнерства, калі, як гэта было ў нас у Глыбокім, на чалавечых костках гуляюць у футбол, хай сабе нават гэта й косткі былых захопнікаў нашае Радзімы".

А вось што гавораць пра нямецкія пахаваньні шэраговыя мінакі.

**(Спадар:)** "Так, у Глыбокім гэтая праблема была вырашана. Але вырашана нейкім цудам, бо мы ведаем і пазыцыю цяперашніх уладаў, і пазыцыю некаторай часткі ветэранаў, якія вельмі адмоўна ставяцца да стварэньня нямецкіх пахаваньняў. Думаю, што зараз такога, прабачце, не адбылося б!

Дарэчы, была прапанова зрабіць мемарыял проста там, на стадыёне. Але ўлады на гэта не пайшлі."

**(Спадар:)** " Я працаваў майстрам ЖКГ, і мы тут выкапалі экскаватарам 16 касьцякоў нямецкіх жаўнераў. Старажылы гавораць, што немцы былі тут пахаваныя вакол усяго касьцёлу і нават з агароджай. Мяркую, што варта было б перазахаваць і іх. І тутэйшым уладам я гэтае месца паказваў...

**(Карэспандэнтка:)** "І чаму яны нічога з гэтым не зрабілі?"

**(Спадар:)** "Што я магу сказаць на гэта? Я ж не прадстаўнік уладаў!"

**(Спадарыня:)** "Ведаеце, я веру ў Бога, і мяркую, што кожныя душа і цела мусяць быць пахаваныя вартым чынам. І калі тут насамрэч ёсьць пахаваньне, то мусяць быць і могілкі. Усё-ткі ўсе яны былі людзі!"

**(Спадар:)** "Яны былі акупанты! І рабіць ім пахаваньні, я думаю, ня варта!"



Пахаванне нямецкіх жаўнэраў каля Глыбокага наведалі карэспандэнты радыё «Свабода» ды «Камсамольскай праўды»

**(Бабуля:)** " Дык іх жа ўжо пахавалі там, на новых могілках. І крыжы, мусіць нейкія паставілі! А ў нас тут усе былі супраць, бо яны напалі на нашу Беларусь. Толькі ж мы тут ужо не камандзіры..."

**(Спадар:)** "Думаю, што кожны чалавек мусіць быць годна пахаваны, і тыя немцы таксама.

**(Карэспандэнтка:)** "А чаму ж тады няма ў нас нямецкіх пахаваньняў?"

**(Спадар:)** "Таму што такія ў нас людзі.І такая ў нас культура. Далі ж немцы грошы на будаўніцтва стадыёну, а дзе яны падзеліся? Стадыёну так і няма, толькі во рэстаранчыкі паадчыняліся ды "забягайлавачкі". Ці не на тыя самыя грошы?

**(Спадар:)**"Можа,улады мяркуюць, што Нямеччына – гэта дойная карова? Як, маўляў, далі грошы раз, так і другі дадуць. І будуць тады і нямецкія могілкі, і, можа, польскія. Абы толькі грошы давалі.

**(Спадар:)** "Няхай бы ў Нямеччыну сваю іх везьлі і там хавалі! І глядзелі б там за іхнымі могілкамі! На сваёй зямлі, я думаю, свае людзі мусяць ляжаць!"

**(Спадарыня:)** "Што ў нас, у Глыбокім, зямлі мала? Стадыён на касьцях, 50 год па іх бегалі ды ў футбол гулялі!"

**(Бабуля:)** "І чапаць іх ня трэба было, тых бедных немцаў, трэба было там могілкі і рабіць. Можа, якія косьці перанесьлі, а якія й зхасталіся ў зямлі. Хіба ж гэта па-людзку? Трэба было там зрабіць ім памяць!"

**(Спадарыня:)** "Во як прэзыдэнта выбіраць, то прыдумляюць рэферэндумы. Няхай бы і тут правялі рэферэндум: хочуць нашы людзі нямецкія могілкі ці не. Я вось так мяркую: калі ўжо лёс такі, што раз менавіта тут давялося чалавеку душу і галоўку сваю скласьці, то тут і ягонае месца!

*Браніслава Станкевіч, Глыбокае*

# ЛЬГОТЫ ДЛЯ ДОНОРОВ КРОВИ

**Перечень социальных льгот, прав и гарантий, предоставляемых в соответствии с действующим законодательством донорам**

| Вид льгот и гарантий | Категория получателей |
|---|---|
| **Льготы по медицинскому обслуживанию, включая санаторно-курортное лечение** | |
| Бесплатный отпуск лекарств и изделий медицинского назначения по рецептам врачей для амбулаторного лечения на период временной нетрудоспособности, наступившей в связи с забором у них органов и тканей<br>Однократное бесплатное санаторно-курортное лечение в пределах Беларуси, а при наступлении инвалидности, связанной с забором органов или тканей, ежегодное бесплатное санаторно-курортное лечение | доноры органов или тканей |
| Первоочередное выделение по месту работы или учебы льготных путевок в домах отдыха, на туристические базы, а при наличии медицинских показаний – на санаторно-курортное лечение. | доноры в течение 12 месяцев после последней сдачи и ее компонентов при условии, что донор-мужчина сдал кровь или ее компоненты не менее 5 раз, донор-женщина – не менее 3 раза за 12 месяцев, предшествующей последней сдаче крови |
| Первоочередное приобретение по месту работы или учебы льготных путевок для санаторно-курортного лечения<br>Внеочередное лечение в государственных организациях здравоохранения<br>Пользование при выходе на пенсию поликлиниками, к которым они были прикреплены в период работы<br>Приобретение лекарственных средств с 50-процентной скидкой от их стоимости<br>Внеочередное бесплатное зубопротезирование (за исключением протезирования из драгоценных металлов, фарфора и металлокерамики) | доноры, которым выдан знак почета «Почетный донор Республики Беларусь», «Почетный донор СССР» или «Почетный донор Красного Креста БССР» |
| **Льготы по проезду** | |
| Внеочередное приобретение билетов на железнодорожный, воздушный и автомобильный транспорт | доноры, которым выдан знак почета «Почетный донор Республики Беларусь», «Почетный донор СССР» или «Почетный донор Красного Креста БССР» |
| **Льготы в сфере трудовых отношений** | |
| Освобождение от работы для обследования и сдачи крови и ее компонентов, а также предоставление после этого дополнительного дня отдыха с сохранением среднего заработка. Указанный день по желанию работника может быть присоединен к трудовому отпуску или использован в иное время. | доноры |
| Освобождение от занятий в день сдачи крови | учащиеся средних, студенты высших учебных заведений, иные категории тех, кто учиться |

# Мільёны з-за акіяну

**Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш днямі падпісаў дакумэнт пра дапамогу былым краінам Савецкага Саюзу, дзе асобным радком пазначана дадатковая падтрымка праграмаў для разьвіцьця дэмакратыі ў Беларусі памерам 5 мільёнаў даляраў.**

Паводле гэтага дакумэнту, усяго на дапамогу незалежным краінам былога СССР Злучаныя Штаты выдзяляюць 560 мільёнаў даляраў. Прызначаныя з гэтай агульнай сумы 5 мільёнаў для Беларусі будуць разьмяркоўвацца праз упраўленьне ў пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы дзярждэпартамэнту ЗША.

Сродкі пойдуць на падтрымку дэмакратыі, грамадзянскай супольнасьці, мэдыяў. Паводле прадстаўніка амбасады ЗША ў Беларусі, рашэньне аб разьмеркаваньні гэтага фонду пакуль не прынятае і цяпер гэтае пытаньне абмяркоўваецца. Як успрымаюць павед[illegible] аб амэрыканскай дапамозе прадстаўнікі афіцыйнага Менску?

Фактычна, сэнатар Мікалай Чаргінец паўтарае ранейшыя выказваньні кіраўніка ФСБ Расеі Мікалая Патрушава, што, быццам, нейкая заходняя няўрадавая арганізацыя накіравала 5 мільёнаў даляраў на арганізацыю "аксамітнай" рэвалюцыі ў Беларусі. Нагадаю, афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамэнту Рычард Баучар заявіў у зьвязку з гэтым, што праца амэрыканскіх недзяржаўных арганізацый празрыстая, мірная і не зьяўляецца часткай патаемнай змовы для зьвяржэньня Лукашэнкі. Баўчэр заявіў: “Наша дапамога ў правядзеньні выбараў у Беларусі і ў любым іншым месцы заключаецца ва ўдзеле грамадзян у гэтым працэсе, узважаным асьвятленьні выбараў прэсай, бестаронньнім навучаньні палітычных партый, маніторынгу і правядзеньні выбараў”.

Параўнаем, колькі выдаткоўваюць беларускія ўлады афіцыйным сродкам масавай інфармацыі і праўрадавым грамадзкім арганізацыям. Нагадаю, Аляксандр Лукашэнка выдаў указ аб дзяржаўнай падтрымцы Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі. Міністэрству фінансаў да 2006 году загадана ўключаць у бюджэт краіны сродкі дзеля выплаты заробкаў апаратчыкам гэтай арганізацыі, а таксама грошы на ўтрыманьне яе Цэнтральнага камітэту.

Далей, паводле гэтага ўказу, “вэртыкаль” павінна знаходзіць у мясцовых бюджэтах грошы на ўтрыманьне тэрытарыяльных камітэтаў БРСМ. Прычым, гэтыя сумы штогод павялічваюцца. Да прыкладу, сёлета для адной гэтай арганізацыі бюджэтам краіны прадугледжана каля 2,5 мільёнаў даляраў. Калі параўнаць - гэта ж палова ўсёй амэрыканскай дапамогі!

Яшчэ больш значную фінансавую падтрымку ад уладаў Беларусі атрымоўваюць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Прычым гэтыя датацыі з году ў год таксама павялічваюцца. Сёлета афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі атрымаюць зь дзяржаўнага бюджэту больш за 40 мільёнаў даляраў. Тлумачыць намесьнік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец: “Прычым у гэтым годзе выдаткі на тэле[illegible] пля[illegible]чыць на 42 працэнты, а выдаткі на пэрыядычны друк і выдавецтвы - на 14 працэнтаў. Вось, на тэлерадыёвяшчаньне гэта будзе 33,8 мільёнаў даляраў, а на друк і выдавецтвы – 5, 86 мільёнаў даляраў. Гэта што тычыцца наўпроставай фінансавай падтрымкі СМІ, але ж пры гэтым ідзе і прымусовая падпіска на дзяржаўныя выданьні. А ёсьць яшчэ мясцовыя бюджэты, я думаю, што гэтыя лічбы яны будуць яшчэ большыя, якія выдае ўлада для падтрымкі тых СМІ, якія сёньня ў першую чаргу прапагандуюць дзейнасьць гэтай самай улады. Недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не могуць разьлічваць ні на якія датацыі. Па другое, магчымасьць атрымаць нейкую дапамогу з-за мяжы таксама ўвесь час абмяжоўваецца, вядомыя дэкрэты прэзыдэнта, якія на гэта накіраваны ”.

Такім чынам, параўнаем гэтыя сумы – 5 мільёнаў, якія вылучаюць ЗША на розныя праграмы ў разьвіцці дэмакратыі ў Беларусі й 40 мільёнаў датацыяў, якія выдае сваім сродкам масавай інфармацыі кіраўніцтва Беларусі. Падвесьці вынік гэтай размове я прапаную былому дэпутату Палаты прадстаўнікоў, алімпійскаму чэмпіёну Уладзімеру Парфяновічу, які лічыць, што выдзеленая амэрыканская дапамога зусім нязначная.

*Алесь Дашчынскі, Менск*




АКЦЫЯ

## Тры спосабы падтрымаць акцыю па беларусізацыі тэлерадыёэфіру:

1) Прыйсці штočацвер 18.00(г.Мінск вул. Варвашэні, 8) і падпісацца за тое, каб на беларускіх тэлеканалах з'яўлялася ўсё ж такі родная мова хоць час ад часу! (Дарэчы там можна ўзяць бланкі і пазбіраць подпісы сярод сваіх сяброў).

2) Раздрукаваць бланк з INTERNETу. http://tv.iatp.by , а потым даслаць на 220006 а\с 104 г.Мінск.

3) Напісаць уласна ліст Міністру інфармацыі (з просьбай павелічэння беларускай мовы ў ТБ эфіры).

Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь Русакевічу Уладзіміру Васільевічу 220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11

Копія: Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспулікі Беларусь

Матвейчуку Уладзіміру Фёдаравічу 220807, г. Мінск, вул. Макаёнка, 9.

Усе пытанні, звязанныя з акцыяй «Беларусізацыя ТБ», дасылайце на E-mail: bel-tv@tut.by

# Сьвяточнае шэсьце ў Глыбокім

## *альбо вяртаемся ў далёкія васьмідзесятыя*

Шмат хто са старэйшага пакаленьня меў магчымасьць вярнуцца ў маладосьць. Калі толькі пачуцьцё настальгіі у прысутных мог выклікаць парад-шэсьце, што прайшло сёньня ў Глыбокім.

Гукі маршу, голас дыктара, ганаровыя госьці на прыступках "белага дому", спартсмэны са сьцягамі ды школьнікі ў гальштуках. Дарэчы, з-за недахопу гальштукаў найноўшага узору прыйшлося тэрмінова нашываць зялёныя стужкі на старыя, якія захаваліся з савецкіх часоў. А для упрыгожваньня калёны дасталі старыя піянэрскія барабаны, у якія стукалі яшчэ маладыя ленінцы пакаленьня васьмідзесятых. Сярод тых, хто стаяў на прыступках Дома Саветаў – з большага – былыя партыйныя ды камсамольскія дзеячы, пастарэўшыя, ужо з пасівеўшымі валасамі – яны таксама сталі на гэтым месцы гадоў 15 таму, прымалі сьвяточнае шэсьце штогод на 1 траўня ды 7 лістапада. Ды вось нешта праз 15 год было не так, чагосьці не хапала. Можа масавасьці, бо удзельнікаў шэсьця было ў некалькі разоў болі, чым гледачоў? Можа не хапала ідэйнасьці ў гэтым мерапрыемстве (Для каго гэтая бутафорыя?) Горш за ўсё, на думку некаторых гледачоў, выглядала калёна з шэрагаў моладзі БРСМ. Чаму з 800 сяброў, што ёсьць у Глыбокім, гэтай псэўдапалітычнай моладзевай тусоўкі набралася толькі з паўсотні удзельнікаў ды не знайшлося сродкаў на балёнікі, транспарынты ды сьцягі?

Можа арганізатарам не хапала нейкай канцэпцыі – сьвята усе-такі! Шараговыя гараджане аддалі перавагу ў гэты дзень рынку ды наведваньню храмаў.

А вось дзяўчаты-барабаншчыцы выглядалі на узроўні. Выдатнае дэфіле пад марш духавога аркестру на мокрым асфальце у міні-спадніцах і ніводнай памылкі ў рухах. Пасьля іх выступленьня спартсмэны з вялізнымі сьцягамі ды салдаты з аўтаматамі глядзеліся больш чым сьціпла.

*Юрась Барсук*





# Якія ж тады вашы сімвалы?

Напачатку траўня цэнтральныя вуліцы Глыбокага упрыгожылі чырвона-зялёнымі сцягамі. Надвор'е было дажджлівае, ветранае. Сцягі моклі, намотваліся на дрэўкі. Надвор'е наладзілася, палотнішчы распласталіся. І што пабачылі мы на вуліцы Леніна. Некалькі сцягоў віселі ўверх лапамі, зялёным да неба. Па усім бачна, што падрыхтоўка сцягоў вялася цэнтралізавана, бо такіх "перагортышаў" было некалькі. Безумоўна, той, хто рыхтаваў іх да мантажу, памыліўся і, хутчэй за ўсё – не наўмысна. Старэйшае пакаленне не вывучала курс ідэалогіі і досведу вялікага наконт сімволікі, якой толькі дзесяць год, не мае. Паспрабуй, разбярыся, зялёны павінен быць зверху, ці чырвоны. Але куды глядзела начальства, якое хадзіла пад такімі сцягамі па цэнтральнай вуліцы Глыбокага амаль два тыдні?

# TUT.BY берётся за цензуру

**Белорусский информационный портал TUT.By объявил о начале борьбы за вежливость. Для того чтобы отучить своих пользователей сквернословить и непристойно выражаться в чей бы то ни было адрес, здесь ввели строгие ограничения на своих ранее свободных форумах. Теперь оставлять на них сообщения и реплики смогут только зарегистрированные пользователи, которые честно указали свое имя, фамилию и место жительства.**

С 16 апреля доступ анонимным авторам на форумы строго воспрещен. Как сказал корреспонденту "Белорусских новостей" председатель совета директоров TUT.By Юрий Зиссер, ужесточить правила форумов заставила сама жизнь:

— С точки зрения Уголовного кодекса не имеет значения, где оскорбили, например, президента Беларуси — в газете или на форуме. Все действия пользователя интернета подчиняются общему законодательству. Вот почему сегодня мы объявляем беспощадную войну беззаконию на наших форумах. Нет — хамству, ерничеству, нецензурщине, унижениям и анонимным доносам. Нет — клевете, оскорблениям, унижению чести и достоинства людей, кем бы они ни были — убийцами, дворниками или президентами государства. Сегодня на наши форумы приходят самые разные люди - женщины, школьники, их родители, бабушки и дедушки, руководители предприятий, министры и, наконец, сотрудники правоохранительных органов и спецслужб. Некоторые ведут себя в интернете так дико и разнузданно, как никогда не позволяют себе в реальной жизни.

Ходят слухи, что ограничения на форумах введены по настоянию властей. Имена высокопоставленных чиновников и их поступки довольно часто становились на TUT.by предметом обсуждения, причем в резких тонах. Кстати, можно вспомнить, как этой весной был закрыт гродненский интернет-форум, на котором местная тусовка пользователей обсуждала политическую ситуацию.

Впрочем, сотрудники портала говорят, что решение очистить форумы было принято самостоятельно, без указки сверху. Мол, почти пять лет модераторы форумов терпели непристойности посетителей. Теперь терпение лопнуло.

Как признался "Белорусским новостям" Юрий Зиссер, многие авторы сообщений не осознают, что со временем оскорбленные чиновники могут подать на них в суд за клевету:

— Многие посетители форумов полагают, что из-за анонимности их нельзя найти и наказать. Однако они глубоко ошибаются. Поскольку все запросы протоколируются интернет-провайдерами, найти автора конкретной реплики на форуме для правоохранительных органов достаточно просто. Это не надписи на заборе. Не за горами судебные процессы из-за наивности и недальновидности интернет-пользователей. Будучи на стороне наших пользователей, мы обязаны предотвратить суды против нарушающих законы по собственному легкомыслию и изгнать за пределы форумов тех, кто нарушает эти самые законы намеренно.

Для того чтобы призвать форумистов к порядку администрация портала планирует разработать и внедрить специальную систему наказания нарушителей. Зарегистрированных пользователей, которые проронят на форумах хоть одно нецензурное слово, ожидает предупреждение. Два слова — два предупреждения. На третий раз пользователь будет отлучен от почтовых ресурсов портала, а его псевдоним будет навеки занесен в черный список. Тех же, кто попытается пробраться на форумы окольными путями, зарегистрировав, например, запасной псевдоним, может ожидать праведный гнев правоохранительных органов.

За порядком возле своего "забора" TUT.By будет следить и днем и ночью. Кстати, в первый же день после введения ограничений нецензурщины на форумах портала заметно поубавилось.



**УВАГА! УВАГА! УВАГА!**

Калі Вы жадаеце і надалей атрымліваць новыя нумары "Барміцы" бясплатна, паведамьце свае каардынаты,напісаўшы электронны ліст на barmica@tut.by ці звычайны ліст на адрас: а/с №2, 211800 Глыбокае, Віцебская вобл.

**Заснавальнік: Грамадзянская ініцыятыва «Рэсурсовы цэнтар "Барміца"»**
**Адрас для допісаў: 211800 Глыбокае, а/с №2**
**e-mail: barmica@tut.by**
**http://www.barmica.org**
**Наклад: 299 паасобнікаў**

**Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся ды выдання бюлетэня.**
**Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.**
**Надрукавана на абсталяванні сяброў**